© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# ПАГОНЯ

Чацвер
24 жніўня 2000 г.
№ 31 (478)
Кошт 70 рублёў


## Патэлефануй на лінію - і спі спакойна

**Ужо трэці тыдзень у Гродне працуе «гарачая лінія» для прадпрымальнікаў. Арганізаваная лінія пры шчыльным супрацоўніцтве Гарадзенскага бізнес-цэнтра, гарвыканкама, юрыдычнай фірмы «Гродфакс» і праекта міжнароднай фінансавай карпарацыі «Развіццё малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі».**

За час дзеяння лініі па дапамогу звярнуліся сем прадпрымальнікаў. Асноўныя праблемы, якія яны спрабуюць вырашыць з дапамогай «гарачай лініі», - гэта рэгістрацыя і перарэгістрацыя, падаткаабкладанне, вядзенне бухгалтарскага ўліку і некаторыя юрыдычныя пытанні.

Гродна - не першы горад, дзе існуе прадпрымальніцкая лінія. Падобныя «гарачыя ініцыятывы» ўзніклі ва ўсіх абласных гарадах Беларусі.

Як адзначыў ПАГОНІ дырэктар бізнес-цэнтра Генадзь Здановіч, «гарачая лінія», безумоўна, не з'яўляецца галоўнай патрэбай прадпрымальнікаў. Але яна і не шкодзіць. Чалавек можа спакойна, не адыходзячы са свайго працоўнага месца, патэлефанаваць на лінію і вырашыць усе свае праблемы».

«Гарачая лінія» працуе па аўторках і пятніцах з 14 да 17 гадзін. У аўторак - па тэлефонах 44-26-55 і 44-74-73, у пятніцу - 44-23-61.

**Павал Мажэйка**

## Калекцыянеры запрашаюць у парк імя Жылібера

**Трэцяга верасня ў Гарадзенскім гарадскім парку культуры і адпачынку імя Жылібера ў рамках яго 225-годдзя пройдзе чарговы «Дзень калекцыянера-2000». У свяце возьмуць удзел калекцыянеры з Гарадзенскай вобласці, прыгранічных раёнаў Польшчы, Літвы ды інш.**

У рамках сяткавання пройдуць выставы калекцыянераў разнастайных відаў і накірункаў калекцыянавання (маркі, тэлефонныя карткі, значкі, манеты, знакі адрознення, піўныя этыкеткі, паштовыя карткі і канверты, літаратура і д.п.), віктарыны, вызны гандаль Рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта», а таксама спецыяльнае памятнае гашэнне афіцыйным штэмпелем.

Апрача «Гроднааблпошты», грамадскага таварыства Беларускага саюза філатэлістаў і гарадзенскага парка, арганізатарамі і ўдзельнікамі «Дня калекцыянера-2000» выступілі «Белпошта», Гарадзенскае абласное ўпраўленне культуры, гарадскі аддзел культуры, іншыя таварыствы калекцыянераў і аб'яднанні майстроў творчасці Гарадзеншчыны.

**Ул.Інф.**

## У Гродне навучылі палякаў

**Група польскіх студэнтаў завяршыла праходжанне практыкі ў Гродзенскім медыцынскім універсітэце. 17 жніўня ім ва ўрачыстай абстаноўцы былі ўручаны адпаведныя сертыфікаты.**

12 студэнтаў медыцынскіх ВНУ суседняй дзяржавы праходзілі практыку на кафедрах універсітэта і ў клініках абласнога цэнтра. Польскія студэнты штогод праходзяць практыку ў Гарадзенскім медыцынскім інстытуце, які сёлета атрымаў статус універсітэта і высока кацірруецца ў Польшчы. Ён развівае плённае супрацоўніцтва з медыцынскімі ВНУ Познані, Кракава, Варшавы, Беластока.

**Ася Куніцкая**




**25, 26 жніўня** - воблачна з праясненнямі, часам - ападкі, вецер заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра **25 і 26 жніўня** - уначы +9...+14, удзень +16...+21.

# Школьны кірмаш ля дзядулі Леніна

**Другі тыдзень у Гродне працуюць «Школьныя базары». Тавары для школяроў можна набыць у шматлікіх крамах горада. Аднак сёлета ўпершыню першавераснёвы гандаль заняў і плошчу Леніна. З панядзелка тут працуюць і прыватныя прадпрымальнікі, і дзяржаўны гандаль.**

Дзякуючы прыстойнай арганізацыі кірмаша бацькам не трэба, як гэта было раней, прастойваць агромністыя чэргі ў «Дзіцячым свеце» ці Цэнтральным універмагу. Можна прыйсці на кірмаш з сям'ёю, дзецьмі і перaтварыць падрыхтоўку да школы ў свята. Можа, таму набыццём школьнай драбязы цяпер з задавальненнем займаецца не толькі маці, але і таты. Адзін з такіх татаў ранiцай у сераду мітусіўся ля латкоў прадпрыемстваў «Спарыш» і парасонаў прыватных прадпрымальнікаў у пошуках дзённіка сыну ў гімназію. Ледзьве не купіў дзённік расейскай вытворчасці з Дзіянай Гурцкой, ды схамянуўся, што лепей у гімназію несці дзённік беларускага ўзору. Не адразу, але знайшоў патрэбны.

Калі на школьным кірмашы дайсці да пакупніцкага шаленства, то можна пакінуць тут тысяч 50-60 на адно дзіця. Мяркуйце самі: касцюм на хлопчыка каштуе 15-20 тысяч, кашуля - 3.700, чаравікі віцебскай вытворчасці - 14, красоўкі і басаножкі - па 5 тысяч, спартыўны касцюм - 7-9 тысяч. А яшчэ ж патрэбная розная канцылярская драбяза. За набор фарбаў, каляровых алоўкаў (не кітайскіх), разнастайныя альбомы, сшыткі, папкі, пластылін выкладзеш не менш як 5 тысяч. А партфель? У гандлёвым доме «Нёман» у продажы ёсць якасныя, да таго ж модныя і амаль безразмерныя, як заплечнікі, ранцы нямецкай вытворчасці ўсяго за 5 тысяч. Да іх - арыгінальныя сумкі для «зменкі» па 1 тысячы рублёў - нашмат лепш, чым аднаразовыя цэлафанавыя пакеты.

Школьныя кірмашы будуць працаваць да першага верасня. Аднак, калі не спадзе попыт, тэрмін працы вулічнага гандлю будзе працягнуты. Удзел у ім прымаюць усе гандлёвыя базы горада і прыватны бізнес.

**Алена Сіневіч**

# Пашкевіч усё-ткі «зламаў хрыбет» «Рэпарцёру»

**Спроба ў Гродне заснаваць незалежную газету «Рэпарцёр» не ўдалася. Журналісты з рэдакцыі «Рэпарцёра» заявілі, што перапыняюць барацьбу.**



Так будзе з кожным...

ПАГОНЯ паведамляла, што апошнім, кульмінацыйным этапам барацьбы за свабоду слова і друку «Рэпарцёра» павінна была стаць дата 18 жніўня. Не пазней гэтага дня рэдакцыя чакала афіцыйнага адказу гарвыканкама на ўжо другі па ліку зварот з прапановай узгадніць адрас рэдакцыі. Нагадаем, што безвыніковая перапіска з гарадскімі ўладамі вялася болей як сем месяцаў. На першую просьбу ўзгадніць адрас рэдакцыі гарвыканкам адказаў афіцыйнай адмовай, спасылаўшыся на 9 артыкул Закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні, дзе гаворыцца пра тое, што гарадская адміністрацыя можа, але не павінна, узгадняць адрасы. Як ёй, адміністрацыі, больш да спадобы: захоча - дасць згоду, а не спадабаецца ёй бедны просьбіт - не дасць. Апошняе і адбылося з «Рэпарцёрам» - ягоным заснавальнікам проста паказалі, хто ў горадзе гаспадар.

Пасля першай адмовы размясціць рэдакцыю журналісты змагаліся за сваё канстытуцыйнае права заснаваць СМІ усімі законнымі сродкамі: стаялі на пікетах ля гарвыканкама, звярталіся па дапамогу і падтрымку да грамадскасці. Урэшце, падалі спазыск на гарвыканкам спачатку ў Ленінскі раённы суд г.Гродна, потым - у абласны. Абласны суд перадаў справу ў Гаспадарчы суд. Пасля гэтага журналісты пераканаліся, што апеляваць да дзяржаўнай судовай сістэмы бессэнсоўна, і пайшлі на адчайны крок - абвесцілі дату марчымай галадоўкі - 18 жніўня - у выпадку, калі выканкам ізноў адмовіць узгадніць адрас рэдакцыі. У заяве на галадоўку рэпарцёры прасілі ва ўладаў даць ім памяшканне і прызначыць урача на час правядзення галадоўкі.

Напрыканцы мінулага тыдня «Рэпарцёр» атрымаў адразу дзве цынічныя адмовы: першая - за подпісам мэра Пашкевіча і ягонага намесніка Шанцілы - не дазваляць узгадненне адрасу рэдакцыі; другая - не даваць урача і памяшкання для акцыі пратэсту.

У фінале больш як паўгадовай барацьбы з сістэмай журналісты вырашылі адмовіцца ад галадоўкі, бо, адпаведна словам рэдактара «Рэпарцёра» Анджэя Пісальніка, «для іх было б найлепш, каб мы галадалі і памерлі з голаду, чым зарэгістравалі сваю газету».

У размове з карэспандэнтам ПАГОНІ Анджэй вельмі самакрытычна ацаніў няўдалую спробу змагання з уладамі: «Хутчэй за ўсё, справа ўва мне. Я не здолеў давесці гэтую справу да канца... Магчыма, недастаткова было маіх асабістых кантактаў і фінансавых сродкаў для барацьбы. Я адразу ўспрыняў барацьбу як сваю галоўную справу і не змог сумясціць яе з работай, якая б фінансавала мяне і маю сям'ю. Я не Юлій Цэзар - не здолеў... Я ўдзячны ўсім, хто нас падтрымліваў і дапамагаў нам».

Аднак выйдзе яшчэ некалькі нумароў «Рэпарцёра» малым накладам. Трэці нумар плануе выхад напрыканцы тыдня. У апытанні гараджанаў на тэму «Ці ведаеце Вы, як завуць нашага мэра?» толькі 20 працэнтаў назвалі правільнае прозвішча. Героем рубрыкі «Слугі народа» стаў намеснік старшыні гарвыканкама Сяргей Анішчык. Сярод іншых тэмаў журналісцкага даследавання - спрэчныя факты з работы гарадзенскага Цэнтра міласэрнасці «Сям'я» і замежных гандляроў на гарадскіх рынках.

**Ганна Макоўская**

## Машыны ці людзі?

**За палітычнымі баталіямі і бітвамі за грошы падаткаплацельшчыкаў улады горада Гродна ўшчэнт забыліся на свае першасныя абавязкі: ствараць прыстойныя ўмовы для жыцця гараджанаў.**

Возьмем стан дарог, якія вядуць з цэнтральных вуліцаў у жылыя мікрараёны. Пад'езды да некаторых дамоў у горшым стане, чым у самых занядбаных вёсках. Гэта датычыць усяго горада. Але, каб мэру А.Пашкевічу далёка не ездзіць дзеля рэвізіі, узгадаем вуліцу Пушкіна. Асабліва абураюць калдобіны і лужыны паміж дамамі NN32, 34, 36. Тым больш, што ёсць магчымасць параўнаць з узорным добрапарадкаваннем тэрыторыі нанава збудаванай аўтазаправачнай станцыі насупраць гэтых жылых дамоў.

Калі спадар А.Пашкевіч яшчэ не забыўся, жыхары вуліцы Пушкіна, дамы якіх мяжуюць з аўтазапраўкай, былі катэгарычна супраць узвядзення гэтага экалагічна-небяспечнага аб'екту. З іх думкаю, аднак, не палічыліся. У такім выпадку, маглі, хаця б, кінуць ім падачку - заасфальтаваць дарогі да пад'ездаў. Але, відаць, лімузіны для мэра важней за людзей.

**Сяргей Самасей**

## Запаліце ліхтары, залатайце дзіры!

**Як Вы ацэньваеце стан Гарадзенскіх дарогаў? - тэма чарговага тэлефоннага апытання ПАГОНІ.**

**<u>Віктар Даяга</u>, галоўны інжынер тралейбуснага ўпраўлення:**

- Стан дарогаў - вельмі кепскі. Неабходны рамонт прыпынкаў АЗОТ, КВМ, Абутковая фабрыка, СШ N17 - вы ж ездзіце, самі бачыце... А пад'езды? Вы што, ня ведаеце, якія пад'езды ў горадзе? Пакажыце мне хоць адзін нармальны двор, каб я паглядзеў! Я ня памятаю, як нармальныя двары выглядаюць...

**<u>Пётр Горбач</u>, кіраўнік першай падстанцыі хуткай дапамогі:**

- Больш за ўсё прэтэнзіяў да новага раёну Дзевятоўка. Там, як пасьля добрай бамбёжкі, ці яго проста не дабудавалі. Асабліва жахлівыя вуліцы Таўлая, Ліможа, Курчатава. Пад'езды жудасныя, даводзіцца аб'язджаць, прытармажваць. І прыязджаем з-за гэтага пазьней, і хворых транспартаваць цяжка, і машыны разьбіваюцца.

**<u>Іван Серада</u>, начальнік гарадской станцыі па барацьбе з хваробамі жывёлаў:**

- У вельмі кепскім стане ўскрайкі гораду, а таксама пад'езды. У цэнтры - больш-менш прыстойна. На маёй вуліцы Каліноўскага пакрыцьце нармальнае, БЛК - у выдатным стане. А вось Карскага, Антонава - проста жах!

**<u>Сяргей</u>, байкер на «Кавасакі»:**

- Ацэньваю на тры балы, для машынаў - на чатыры. Вось толькі вуліца Карскага - горш няма. Такое адчуваньне, што яна нікому не належыць - ямы на палову калена. Па цэнтру, па вуліцы Горкага можна ездзіць, толькі люкаў шмат - то вышэй, то ніжэй. Адвернешся, ня ўбачыш - і ты ўжо ў люку. Забіцца можна.

**<u>Ян Лука</u>, памочнік дзяжурнага па ДАІ УУС Гарадзенскай вобласці:**

- У параўнаньні зь іншымі гарадамі, у нас усё нармальна. Скардзіцца няма на што. Памятаеце вуліцу Белуша паўгода таму? Праехаць немагчыма было. А зараз практычна ўвесь асфальт замянілі. Адзінае, з вуліцай Карскага бяда: як яе будавалі - ніхто ня ведае. І пад'езды ў нас страшныя - у дзяржбюджэце грошай няма. Турбуе іншая праблема. Мы ўжо скардзіліся, але дамагчыся ніяк ня можам, - у горадзе вельмі кепскае асьвятленьне, і ўключаюць яго несвоечасова. А менавіта ў гэты час адбываецца 80-85 працэнтаў наездаў на пешаходаў. Хочацца, каб да першага верасьня ўключылі сьвятло. І нагадайце вадзіцелям, каб не забываліся пра малых дзетак!

**Юлія Дарашкевіч**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Лябедзька просіць не верыць Лукашэнку

**У Беларусі адсутнічаюць палітычныя, прававыя і маральныя падставы для накіравання міжнародных назіральнікаў на парламенцкія выбары. Пра гэта гаворыцца ў лісце намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, дасланым 22 жніўня ад імя Вярхоўнага Савета і Каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл у шэраг міжнародных арганізацый і кіраўнікам знешнепалітычных ведамстваў.**

Як адзначаецца ў пасланні, прыезд на парламенцкія выбары міжнародных назіральнікаў «у вачах грамадскасці фактычна будзе азначаць прызнанне саміх «выбараў» і можа прывесці да «міжнароднай легітымізацыі антыдэмакратычнага антыеўрапейскага рэжыму». Гэта, адзначаецца ў дакументе, створыць перадумовы для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі, прывядзе да аслаблення і расколу дэмакратычных сіл краіны, адмены надыходзячых прэзідэнцкіх выбараў і «чарговага незаконнага працягу паўнамоцтваў Лукашэнкі». Беларуская апазіцыя заклікае еўрапейскія арганізацыі не верыць апошнім выбарчым ініцыятывам кіраўніка дзяржавы.

«Чарговыя абяцанні Лукашэнкі забяспечыць умовы для правядзення дэмакратычных выбараў з'яўляюцца працягам ягонай палітыкі падмана беларускай і міжнароднай грамадскасці», - гаворыцца ў лісце. Акрамя таго, адзначаецца ў дакументе, «цана такім заявам вядомая». «Яшчэ ў 1997 годзе ў лісце міністра замежных спраў Беларусі на імя старшыні Еўрасаюза Лукашэнка браў на сябе больш сур'ёзныя абавязацельствы. З таго часу сітуацыя ў Беларусі істотна пагоршылася», - гаворыцца ў лісце.

Аўтар паслання спадзяецца, што «пазіцыя міжнароднай супольнасці будзе паслядоўнай, прынцыповай і не прывядзе да расчаравання беларускай грамадскасці ў еўрапейскіх каштоўнасцях». Ліст накіраваны старшыні АБСЕ - міністру замежных спраў Аўстрыі Бенітэ Ферэра-Вальднэр, старшыні Парламенцкай Асамблеі АБСЕ Адрыяну Севярыну, Генеральнаму сакратару Савета Еўрапейскага Саюза Хав'еру Салане, прэзідэнту Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Джону Расэлу, дзяржсакратару ЗША Мадлен Олбрайт, у Еўрапарламент. Да яго таксама прыкладаецца тэкст вышэйузгаданага паслання Лукашэнкі 1997 года.

**Юрый Пацёмкін**

# Міністэрства юстыцыі працягвае гуляць у хованкі з Маладым Фронтам

**16 жніўня, роўна праз 3(!) месяцы пасьля падачы дакумантаў на рэгістрацыю, Управа Маладога Фронту нарэшце атрымала факс зь Міністэрства юстыцыі. Начальнік Упраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў Міхаіл Сухінін, які атрымаў запыт з Генэральнай пракуратуры (месяц таму МФ скіраваў туды скаргу), нарэшце вымушаны быў афіцыйна прасьвятліць юрыдычны лёс найбуйнейшай моладзевай апазыцыйнай арганізацыі. Але сэнсацыю маладафронтаўцы так і не дачакаліся. Беспрэцэдэнтнае маўчаньне Міністэрства юстыцыі перарвала паведамленьне, дастойнае аўтаадказьніка: дакуманты знаходзяцца на разглядзе.**

Варта адзначыць, што Міністэрства юстыцыі апынулася ў надзвычай цяжкім становішчы. Рэгістраваць самы масавы нацыянальны моладзевы рух азначае дазволіць разгарнуцца незалежніцкім ініцыятывам значна шырэй. Адмовіць у рэгістрацыі (фактычна забараніць МФ) страшна: падпольны Фронт пужае рэжым яшчэ больш, чым напаўлегальны.

Так званая «камісія Замяталіна», ад якой насамрэч і залежыць рашэньне, ніяк ня можа выбраць, што лепей.

**Прэс-служба Маладога Фронту**



З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула:

# 48 дзён

Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы. Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўных органаў і спэцслужбаў, а таксама людзей добрай волі прыкласьці ўсе намаганьні дзеля ўратаваньня журналіста.

# Вячорка паабяцаў гарадзенцам 200 тысяч. На вуліцах Менска

**У аўторак, 22 жніўня, Гродна наведала прадстаўнічая дэлегацыя БНФ «Адраджэньне». У яе складзе былі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, ягоныя намеснікі - Вячаслаў Сіўчык і Юрый Хадыка, прэс-сакратар Аляксей Шэін і сакратар Управы Юрась Пальчэўскі.**

Асноўным пунктам праграмы візіту была сустрэча з сябрамі гарадзенскай арганізацыі БНФ «Адраджэньне».

Галоўнай мэтай спаткання ў Гродне стала стратэгія і тактыка БНФ «Адраджэньне» падчас лукашэнкаўскага выбарчага фарсу. Як адзначыў Вінцук Вячорка, «неабходна адчуць, чым жывуць, чым дыхаюць гарадзенцы, і паспрабаваць разам выпрацаваць стратэгію ды лозунгі дзеяння».

Свой удзел у выбарах 15 кастрычніка Фронт акрэсліў даволі выразна - байкот. Прычым байкот не мае на ўвазе пасіўны, прымітыўны няўдзел у выбарчай кампаніі.

«Мы проціпастаўляем лукашэнкаўскай выбарчай кампаніі актыўную і складзеную з некалькіх кампанентаў сваю палітычную кампанію», - запэўніў спадар Вячорка.

Альтэрнатыўны сцэнар актыўнага байкоту, прапанаваны Фронтам і аб'яднанай апазіцыяй больш трапна і больш зразумела трэба называць тактыкай «ад дзвярэй да дзвярэй».

Менавіта такім «дзедаўскім» чынам актывісты Фронту, а гэта будуць толькі яны, бо іншыя палітычныя партыі ды арганізацыі не маюць вольных людскіх рэсурсаў, павінны абыходзіць усе кватэры, пытацца, якія выбары хочуць бачыць людзі і ўгаворваць падпісацца пад вядомымі чатырма ўмовамі.

Своеасаблівым «народным рэферэндумам» плануецца дасягнуць некалькі блізка- і далёкапалітычных мэтаў.

Па-першае, данесці да людзей небяспеку страты незалежнасці Беларусі. А гэтая небяспека існуе, бо новаабраная палата адразу ж зоймецца ратыфікацыяй усіх саюзных дамоваў.

Па-другое, «пацвердзіць перад міжнароднай супольнасцю волю беларускага народа да сапраўдных дэмакратычных выбараў у сапраўдны дэмакратычны парламент».

Па-трэцяе, актыўнае байкатаванне лукашэнкаўскіх выбараў большасцю беларускага грамадства абавязкова павінна, на думку кіраўніцтва Фронту, прымусіць Лукашэнку вярнуцца да абмеркавання чатырох умоваў.

І па-чацвёртае, уся восеньская апазіцыйная кампанія разглядаецца Фронтам «як прэлюдыя да адказнага і паваротнага моманту, да прэзідэнцкіх выбараў 2001 года».

Акрамя абыходу кватэраў увосень Фронт плануе правесці шэраг улётачных акцыяў і тры масавыя акцыі-пратэсты. Храналагічна пратэстная хваля выглядае наступным чынам:

1 кастрычніка - агульнанацыянальная дэманстрацыя ў Менску;

8 кастрычніка - шэраг акцыяў у 22-24 буйных гарадах Беларусі;

14 кастрычніка - завяршальны марш пратэсту ў Менску, на які, адпаведна словам Вінцука Вячоркі, плануецца вывесці да 200 тысяч чалавек.

У сувязі са скіраванасцю ўсёй палітычнай восені-2000 на будучыя прэзідэнцкія выбары, прысутных на сустрэчы гарадзенцаў, хвалявала праблема «аднаго кандыдата».

Адказваючы на гэтае пытанне, намеснік старшыні БНФ Юрась Хадыка прывёў дадзеныя сацыялагічных даследаванняў, паводле якіх найвялікшыя рэйтынгі сярод апазіцыі маюць Міхаіл Чыгір і Станіслаў Шушкевіч. Аднак яны абодва не задавальняюць Фронт, а Чыгір да таго ж наогул заплямў сябе ўдзелам у выбарчым лукашэнкаўскім фарсе. Таму месца лідара апазіцыі працягвае заставацца вакантным.

Што датычыць тых апазіцыянераў, якія далі згоду на ўдзел у выбарах у Палату, дык стаўленне Фронту да іх акрэсліў той жа Юрый Хадыка, што назваў гэтых палітыкаў «так званыя дэмакраты».

Аднак кіраўніцтва Фронту ўпарта пазбягае лічыць паводзіны Статкевіча, Абрамавай і да іх падобных расколам апазіцыі. «Гэта нават не паслабленне апазіцыйных сілаў, а выключна асабістая справа некалькіх людзей, якія праследуюць свае вузкапалітычныя інтарэсы», - такой была рэакцыя Вінцука Вячоркі.

Малюючы гарадзенцам восеньскую стратэгію і тактыку Фронту, кіраўнікі арганізацыяў казалі толькі пра поспехі і чакаемыя перспектывы. Аднак дысанансам гэтаму прагучаў напамін Юрыя Хадыкі пра польскую «Салідарнасць», якой у 1985 годзе не ўдалося байкатаванне выбараў, што прывяло да яшчэ пяцігадовага змагання польскай дэмакратыі.

**Павал Мажэйка**



Вячаслаў Сіўчык, Вінцук Вячорка і Юрый Хадыка (злева направа) адказваюць на пытанні гарадзенцаў

# Лідары краінаў Захаду і ЗША з Лукашэнкам не сябруюць

**Выступленне прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі на «Саміце тысячагоддзя», які 6 - 8 верасня пройдзе ў Нью-Йорку і адкрые 55-ю, юбілейную, сесію Арганізацыі Аб'ядналых Нацый, адбудзецца ў першы дзень работы форуму. Пра гэта на брыфінгу 17 жніўня ў Менску паведаміў начальнік упраўлення Амерыкі МЗС Беларусі Андрэй Дапкюнас.**

Як паведаміў сп. Дапкюнас, у Нью-Йорку прадугледжаны кантакты Лукашэнкі з кіраўнікамі шэрагу дзяржаваў - удзельнікі саміта. Гэтыя кантакты адбудуцца падчас спецыяльна арганізаваных двухбаковых сустрэч і падчас пратакольных мерапрыемстваў, якія наладжвае ААН для лідараў дзяржаваў. Дакладны пералік сустрэч прэзідэнта Беларусі будзе вызначаны толькі напярэдадні саміта, аднак ужо вядома, што ў адпаведным спісе няма прозвішчаў лідараў краінаў Захаду і ЗША.

Галоўная тэма «Саміта тысячагоддзя», які пройдзе ў выглядзе 6 пленарных пасяджэнняў, - «Роля ААН у XXI стагоддзі». Кіраўнік кожнай з краін будзе мець магчымасць выступіць перад удзельнікамі саміта. Дадатковую магчымасць абмяняцца меркаваннямі і правесці дыскусіі лідары дзяржаваў атрымаюць на пасяджэннях «круглых сталоў», якія, як паведаміў сп. Дапкюнас, пройдуць за зачыненымі дзвярыма без удзелу прэсы. Па выніках «Саміта тысячагоддзя» плануецца прыняцце дэкларацыі, у якой будуць адлюстраваны ўзгодненыя падыходы дзяржаваў - членаў ААН да найбольш важных глабальных праблем сучаснасці.

Асноўныя з гэтых праблем будуць закрануты ў дакладзе генеральнага сакратара ААН. Сярод іх - глабалізацыя кіравання, пазбаўленне ад галечы і страху, забеспячэнне ўстойлівасці будучага свету, абнаўленне ААН. Паводле словаў Андрэя Дапкюнаса, у дакладзе кіраўніка ААН абазначаны шэсць асноўных усеагульных каштоўнасцяў, якія маюць найбольш важнае значэнне для развіцця чалавецтва ў новым стагоддзі, - свабода, роўнасць і салідарнасць, талерантнасць, адмова ад насілля, захаванне навакольнага асяроддзя, сумесная адказнасць.

Як адзначыў начальнік упраўлення Амерыкі МЗС, прадстаўнікі Беларусі ўзялі актыўны ўдзел у распрацоўцы дэкларацыі саміта.

**Андрэй Асмалоўскі**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# БПСМу хапае на цімураўскі рух

**На сустрэчы з журналістамі першы сакратар абласнога камітэта БПСМ Валерый Клімовіч так і не прызнаўся, колькі грошай дзяржава дае маладым патрыётам на ажыццяўленне іх мэтаў і задачаў.**

Прэс-канферэнцыя была прысвечаная трохгоддзю існавання БПСМ. Сёння арганізацыя вобласці налічвае 24109 чалавек у 1107 першасных арганізацыях і з'яўляецца самай масавай у рэспубліцы. На пытанне ж журналістаў адносна бюджэту БПСМ Валерый Клімовіч сціпла апусціў вочы долу і адказаў: «Сродкаў, якія выдаткоўваюцца, хапае на ажыццяўленне нашых мэтаў». Такім чынам, тое, якая сума грамадскіх грошай трацiцца на ўтрыманне БПСМ, мы з вамі так і не даведаемся. Хоць маем на гэта поўнае права як сумленныя падаткаплацельшчыкі.

На сённяшні дзень БПСМ складаюць, галоўным чынам, школьнікі, навучэнцы вучылішчаў, тэхнікумаў і студэнты ВНУ - 58 працэнтаў. На пытанне наконт папулярнасці арганізацыі малады патрыётаў сярод больш дарослай і самастойнай моладзі - рабочых, бізнесоўцаў - спадар Клімовіч прызнаў, што тыя не надта ахвотна папаўняюць шэрагі ягонай арганізацыі, бо лічаць яе «нашчадкам камсамолу». Ёсць і рэальнае падабенства праграмы БПСМ да камсамолу і піянерыі. У прынцыпе, праграма дзейнасці абласной арганізацыі ідэнтычная справам «юных ленінцаў». Сярод найбольш буйных справаў лідар АК БПСМ назваў адраджэнне цімураўскага руху, збор актыву ў летніку «Купалінка», конкурс на лепшую пярвічку, конкурс адораных дзяцей «Адгукніцеся, таленты!», клубы патрыятычнай моладзі ў школах і моладзевыя атрады дружыннікаў.

Акрамя гэтага, пры БПСМ існуе цэнтр турызму «Юнацтва», дзе па агульнаісунуючых коштах можна набываць пуцёўкі на турпаездкі па Беларусі.

Першы сакратар прызнаў, што кантактаў з недзяржаўнымі моладзевымі аб'яднаннямі няма, таму што тыя адмаўляюцца супрацоўнічаць з БПСМ. Міжнародныя кантакты патрыятычнага саюза моладзі распаўсюджваюцца выключна на ўсход. Летась Валерый Клімовіч быў на з'ездзе сібірскай моладзі. Сёлета была сустрэча дэлегатаў БПСМ у Маскве з расейскімі парламентарыямі на тэму абмеркавання асобных пытанняў аб'яднання Беларусі і Расеі. Паводле словаў спадара Клімовіча, на сустрэчу прыйшлі Жырыноўскі ды Зюганаў, астатнія запрошаныя дэпутаты адмовіліся. Апроч гэтага, БПСМ адпраўляе на працу ў Валгаградскую вобласць, Стаўрапольскі і Краснадарскі краі студэнцкія атрады. 10 жніўня адзін з атрадаў накіраваўся на ўборку вінаграду.

У кандыдаты ў Палату прадстаўнікоў члены БПСМ не вылучаюцца. Лідар абласнога камітэта патлумачыў, што прычына - у маладым для такой адказнай дзяржаўнай работы ўзросце бэпэсэмаўцаў. Аднак у мясцовых Саветах дэпутатаў сёння працуе 23 сябры БПСМ, якія перамаглі на безальтэрнатыўных участках Выбараў-99.

На заканчэнні прэс-канферэнцыі Валерый Клімовіч, які прадстаўляў журналістам 24-тысячную арганізацыю, падвёў вынікі трохгадовага існавання БПСМ: «Наш саюз падужэў і гатовы да дасягненняў новых мэтаў і задачаў. Мы - моцныя, таму што мы едныя - і ў гэтым наша сіла».

**Алена Сіневіч**

# Гнілая памяць не баліць

**На Кургане Славы гніюць танкі, браневікі, зенітныя прылады. Гэта - безгаспадарныя экспанаты музея баявой тэхнікі часоў Вялікай Айчыннай вайны, які так і не адбыўся. Па машынах лазяць дзеці, ноччу тут спяць бамжы.**



Удзень па экспанатах лазяць дзеці, ноччу тут спяць бамжы

Здалёк танкі, схаваныя сярод дрэваў, выглядаюць нават вельмі прыстойна - да апошняга юбілею Дня Вялікай Перамогі вайскоўцы іх нанава падфарбавалі, асвяжылі нумары, дамалявалі чырвоныя зоркі. Аднак зблізку магутныя машыны маюць убогі выгляд. З выдраных надпісаў мы даведваемся, што тут быў Макс, і яшчэ Галя Б., якая кахае Вову, на адным з браневікоў выдрана «наш дом», а побач, надзвычай акуратна, - «туалет». На двух танках хтосьці апрабаваў балончык з блакітнай фарбай. Браневікі, якія ў адрозненне ад танкаў стаяць не на бетонных пастаментах, а проста на поплаве, прыраслі гусеніцамі да зямлі. Такім чынам, уражання «свяшчэннага манументу» яны не ствараюць.

Па адным з браневікоў снуюдаюць хлапчукі. Пытаюся, ці можна патрапіць унутр. «Можна, - кажуць, - але там моцна смярдзіць». Покрыўкі на браневіку няма, тырчаць абарваныя металічныя скобы таўшчынёй у два сантыметры. У адтуліне памерам 50 на 80 сантыметраў бачныя металічныя каркасы, да якіх прымацоўвалася ўнутранае абсталяванне. Яны пагнутыя, ссунутыя з месцаў. Паміж імі - асколкі шкляных бутэлек, шматкі пластыкавых, абрыўкі газетаў, піўныя накрыўкі ды іншае смецце. «У чацвёрты бранявік таксама можна ўлезці, толькі там дзірка маленькая. Хаця, - як каму, для мяне - нармальная», - падказвае адзін хлапчук.

Ніякага афіцыйнага статусу гэтая выстава не мае. Шэф прэсслужбы гарвыканкама Віктар Жалезняковіч сказаў: «Мы называем яе «музей пад адкрытым небам». У ВА ЖКГ яе ўвогуле не адважыліся неяк назваць.

Пра яе з'яўленне гарадскія чыноўнікі кажуць неахвотна. Віктар Жалезняковіч спасылаўся на тое, што калі стваралася гэтая выстава, ён яшчэ працаваў у гарвыканкаме. «Гэтую выставу ўтварыў кааператыў «Пульс», але дзе яны зараз - не ведаю». Старшыня гарадскога Савета ветэранаў Іван Іванавіч Абросімаў прыгадаў, што стваралася гэтая экспазіцыя да 50-годдзя Перамогі. Узоры для выставы далі вайсковыя часткі Брэста, Баранавічаў, Слоніма. Аднак, паводле яго версіі, у гарадскіх уладаў не было магчымасці ўтрымліваць такую экспазіцыю, таксама, як і Музей баявой Славы. Тады, сцвярджае ветэран, і музей, і выставу «забралі камерсанты» - абяцалі ахоўваць і аднаўляць экспазіцыю, а самі выкінулі экспанаты з музея і за тэхнікай не глядзяць. «Я ім тэлефанаваў, сварыўся, каб яны вярнулі ўсё на месца. Але ўжо даўно тэлефаную і не ведаю, дзе яны і што робяць».

Адшукаць «камерсантаў» было зусім няцяжка. Наталля Аляксандраўна, бухгалтарка кааператыва «Пульс» паведаміла, што сапраўды, гэтая выстава была створаная кааператывам. «Гэта быў падарунак фірмы гораду да 50-годдзя Перамогі. Мы за ўласныя грошы адшукалі і перавезлі ў Гродна гэтую тэхніку з усёй рэспублікі. Усе цагляныя пляцоўкі для танкаў былі таксама зробленыя за грошы фірмы. Арганізавалі вялікія ўрачыстасці, мітынг, канцэрт для ветэранаў». Фірма за ўласны кошт запрасіла зваршчыкаў і арганізавала ахову на час свята - каб з машынаў дэталі не паздымалі. Што ж тычыцца Музея баявой Славы, - ён не быў перададзены нам. Будынак музея быў выстаўлены гарвыканкамам на аўкцыён, і наша фірма яго купіла. Зараз ён належыць другой фірме». Экспанаты зараз знаходзяцца ў гісторыка-археалагічным музеі.

Цікава, што ўсе афіцыйныя асобы, да якіх мы звярталіся па інфармацыю, на словах дэманструюць свой клопат пра мемарыял. Самым сумленным аказаўся Яўген Жабрун, намеснік старшыні гарвыканкама, які прызнаўся, што толькі вайскоўцы зараз падфарбоўваюць і рамантуюць выстаўленую тэхніку. Віктар Жалезняковіч заявіў: «Мы падтрымліваем яе, як можам. Падфарбоўваем, рамантуем...». Іван Абросімаў сціпла сцвярджаў, што толькі прысутнічаў пры тым, калі вайскоўцы прыводзілі танкі ў належны выгляд.

Зрэшты, старшыня гарадскога Савета ветэранаў параіў мне наконт выставы баявой тэхнікі часоў Вялікай Айчыннай вайны не пісаць...

**Малютка Скуратава**

# Прычына смерці - аміяк

**21 жніўня ў бальніцы г. Слоніма ад атручэння парамі аміяку памёр рабочы мясцовага завода сухога абястлушчанага малака.**

Як паведамілі ў прэс-цэнтры МНС Беларусі, атручэнне наступіла ў выніку аварыі, якая здарылася ў кампрэсарным цэху прадпрыемства 19 жніўня, калі адбылася ўцечка 20 - 30 кілаграмаў аміяку.

Зараз частка абсталявання адключана, вядуцца рамонтныя работы.

# Расейская вакцына не дапамагла

**Сталі вядомыя першыя вынікі працы камісіі Міністэрства аховы здароўя па расследаванню абставінаў смерці ад шаленства 67-гадовай жыхаркі вёскі Бераставіца Берштаўскага сельсавета Шчучынскага раёна.**

Як паведаміў загадчык аддзела эпідэміялагічнага нагляду за карантыннымі і надзвычай небяспечнымі інфекцыямі Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Ігар Касяк, 1 красавіка ў Шчучынскую цэнтральную раённую бальніцу па медыцынскую дапамогу звярнулася жанчына, якую 31 сакавіка пакусаў хатні сабака. Паводле словаў спецыяліста, урачы аказалі пацярпелай неабходную ў такіх выпадках антырарычную (супраць захворвання на шаленства) дапамогу ў поўным аб'ёме. Дакументы сведчаць аб тым, што жанчына была змешчана ў стацыянар, дзе ёй былі прызначаны антырарычныя вакцыны і гамаглабулін, а таксама медыкаментознае лячэнне, заўважыў урач.

Паводле ягоных словаў, захворванне на шаленства ў жывёлы было пацверджана толькі праз чатыры дні. Пасля праведзенага курсу лячэння пацярпелая была выпісана дадому, аднак праз два месяцы зноў звярнулася па медыцынскую дапамогу. 10 жніўня, як сказаў сп. Касяк, жанчына памерла ад гэтай небяспечнай хваробы, аб чым сведчаць даныя лабараторнага і паталагаанатамічнага даследаванняў. Як адзначыў спецыяліст, вакцына, якой прышчэплівалася пацярпелая, будзе накіравана на даследаванне яе вытворцу - дзяржаўнаму прадпрыемству «Імунапрэпарат» у Маскве. Акрамя таго, у Беларусі часова прыпынена выкарыстанне расейскай вакцыны да пацвярджэння яе ахоўных уласцівасцяў, якія маглі змяніцца і з-за парушэння правілаў транспарціроўкі і захоўвання, адзначыў урач. Разам з тым, паводле яго словаў, гэты трагічны выпадак пацвярджае статыстыку Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якая сведчыць пра тое, што прыкладна 5 працэнтаў людзей, якім прышчэплена вакцына, усё роўна хварэюць на шаленства.

Расследаванне абставінаў першага за апошнія чатыры гады выпадка смерці чалавека ад шаленства, зарэгістраванага ў краіне, працягваецца.

**Марат Гаравы**

# Зрабілі з амартызатара міну

**У Карэліцкім раёне знойдзена самаробная выбуховая прылада.**

Супрацоўнікамі міліцыі ў вёсцы Крынічнае 19 жніўня ў багажніку аўтамабіля «Масквіч», за рулём якога знаходзіўся жыхар горада Стоўбцы Менскай вобласці, былі знойдзены і канфіскаваны цыліндрычны прадмет, як мяркуецца, частка амартызатара ад мапеда, з двума выходзячымі з яго правадамі даўжынёй 15 метраў.

На месца здарэння была выклікана група размінавання з Гродна. Яе супрацоўнікі ўзарвалі знойдзены ў машыне падазроны прадмет. Сіла выбуху склала каля 800 грамаў траціларага эквіваленту.

Вадзіцелю аўтамабіля і пасажырам удалося ўцячы.

**Ася Куніцкая**

# «Шлях да свабоды» пачынаецца ў Лідзе

**Сапраўдней падзеяй для Ліды стаўся хрысціянскі музычны фэстываль, які ладзяць на гэтым тыдні некалькі пратэстанцкіх цэркваў.**

У мінулыя выходныя група маладых хрысціянаў зь мясцовых Фарнага касьцёлу і пяцідзесятніцкай царквы «Дабрадаць» праводзіла музычную акцыю для нефармальнай моладзі гораду. На працягу сямі наступных дзён царква «Новае жыццё» ставіць намёт на паўтысячы чалавек у мікрараёне «Слабада». Перад жыхарамі гораду выступяць гурты «Джэм», «Супольнасьць», шматлікія барды. Для розных узроставых групаў будзе прапанаваная разнастайная праграма: лялечны тэатр, гульні, дыскатэкі, сустрэчы «Каму за 50».

Адметна, што падчас фэсту будзе праводзіцца спэцыяльная праграма «Шлях да свабоды» рэабілітацыйнага цэнтру «Крыніца», супрацоўнікі якога распавядуць, як можна вызваліцца ад алкагольнай і наркатычнай залежнасьці.

**БАРЦ**

# Наклафеліліся...

**19 жніўня ў цэнтры Менска двое непрацуючых, раней судзімых грамадзян без пэўнага месца жыхарства арыгінальным спосабам спрабавалі скрасці ў двух жыхароў Гродна дакументы і рэчы.**

Як паведамілі ў прэс-службе МУС Беларусі, падчас сумеснага распіцця спіртных напояў у двары дома № 2 на вуліцы Кірава бяздомныя падсыпалі гасцям з Гродна клафелін. Аднак скрасці дакументы і сумкі, якія прыналежалі жыхарам Гродна, ім не ўдалося: зламысьнікаў затрымаў нарад патрульна-паставой службы міліцыі Кастрычніцкага РУУС Менска.

**Вячаслаў Будкевіч**

# Пілігрымка з Беластока да Вільні

**23 жніўня каталіцкія паломнікі з Беластока перасяклі беларуска-літоўскую мяжу. Наперадзе вернікаў чакае Вільня.**

Польскія паломнікі 19 жніўня былі ў Гродне, дзе пабывалі на набажэнстве ў Бернардзінскім касцёле. 20 - 23 жніўня яны наведалі каталіцкія храмы ў Гарадзенскім, Шчучынскім і Воранаўскім раёнах. Маршрут вернікаў па Гарадзенскай вобласці склаў звыш ста кіламетраў.

Завершыцца «пілігрымка» 26 жніўня.

**Ул. інф.**

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Заробак ад Лукашэнкі: абяцаны і рэальны

**У сярэдзіне жніўня адбыліся падзеі, на якія звярнулі ўвагу ўсе пласты насельніцтва. Падчас дзелавых паездак у Іванаўскі раён Берасцейскай і Лідскі раён Гарадзенскай абласцей Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву адносна таго, што з першага кастрычніка і з новага года, быццам бы ў два этапы (кожны раз на 25 працэнтаў), будзе падвышана заробная плата. У агульным плане яна на працягу чатырох месяцаў будзе падвышана на 50 працэнтаў. Пры гэтым у Іванаве Лукашэнка паабяцаў падняць сярэдні заробак да 100 даляраў у месяц. Праўда, калі адчуў, што хапіў цераз край, ужо праз два дні ў Лідзе ён зрабіў удакладненне, сэнс якога ў тым, што 100-даляравы ўзровень заробку будзе дасягнуты недзе праз год, увосень 2001 года.**

Заява А.Лукашэнкі абумоўлена дзвюма прычынамі. Па-першае, інфляцыяй, г.зн. ростам коштаў на спажывецкія тавары і, адпаведна, ростам галечы ў краіне, а таксама патрабаваннем прафсаюзаў і вытворчых калектываў змяніць сітуацыю, г.зн. афіцыйна падвысіць заробак ды пенсіі. Па-другое, нельга скідаць з рахунку маючыя адбыцца выбары ў Палату прадстаўнікоў. Без сумневу, сваім, хаця і фармальным, клопатам пра электарат А.Лукашэнка хацеў заклікаць бяднейшыя пласты насельніцтва галасаваць на гэтых выбарах. І галасаваць за «партыю ўлады».

У сувязі з афіцыйнай заявай наконт маючага адбыцца падвышэння заробнай платы ўзнікае шэраг пытанняў. А менавіта - ці ёсць эканамічныя перадумовы для падвышэння мінімальнага і сярэдняга заробку за такі непрацяглы тэрмін і да таго ж, у такіх унушальных памерах? А таксама - ці магчыма падвысіць зарплату без эканамічных рэформаў у краіне, у тым ліку і рэформы самога заробку?

Даючы адказ на першае пытанне, варта адразу ж адзначыць, што намінальны заробак падвысіць можна. Але падняць рэальны - умоваў на сёння, на жаль, няма. Папярэдні досвед падвышэння зарплаты па два-тры разы ў год сведчыць, што яе рост кожны раз у горшым выпадку толькі пакрываў страты насельніцтва ад інфляцыі ў папярэдні перыяд. У лепшым выпадку - на кароткачасовы тэрмін (на 2-3 месяцы) рэальны заробак падвышаўся, а потым усю гэтую падвышку зноў з'ядала інфляцыя. Так, у траўні зарплата бюджэтнікаў была падвышаная недзе на 20 працэнтаў. Але на дадзены момант ад гэтага падвышэння нічога не засталося, бо з пачатку года кошты на спажывецкія тавары выраслі ў межах 65 працэнтаў. І працягваюць расці ў жніўні. Не адбудзецца нічога новага і гэтым разам. Ужо да новага года падвышаны заробак будзе адмінусаваны непераадоленай інфляцыяй, якая будзе толькі нарастаць.

На што ж разлічваюць кіраўнікі, якую крыніцу яны будуць выкарыстоўваць або мабілізоўваць, каб падвысіць зарплату ў яе рэальным значэнні? Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч лічыць, што «заробная плата будзе падвышана за кошт эфектыўнасці працы прадпрыемстваў». Гэтую заяву наўрад ці можна ўспрымаць усур'ёз, бо ў першым паўгоддзі агульны, далёка не нармальны, узровень рэнтабельнасці, напрыклад, прамысловасці, знізіўся на чатыры працэнты ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. А колькасць стратных прадпрыемстваў дасягнула нечуванага ўзроўню - 34 працэнты. Няма ніякіх звестак адносна мераў, што прымаюцца, да прыкладу, у сферы інвестыцыяў знешняга капіталу, які б хутка падвысілі «эфектыўнасць працы прадпрыемстваў». Хіба што здзейсніцца нейкі цуд. Але цудаў у эканоміцы не бывае. Рэальна адбываецца не прыліў капіталу ў вытворчыя ячэйкі мікраэканомікі, а толькі адліў. Бо сёння велічыня падатковай нагрузкі дасягнула 52 працэнтаў унутранага валавога прадукта. Між тым як адпаведна навуковым стандартам, якія выкарыстоўваюцца ў Еўропе, падаткі не павінны перасягаць 35 працэнтаў толькі часткі ўнутранага валавога прадукта, а менавіта прыбытку. Перабор у падатках стаўся настолькі вялікім, што прэзідэнт вымушаны быў адмяніць ім жа ўведзены рэнтны падатак з бартарных аперацыяў.

Можа, ёсць разлік на макраэканамічныя асновы, на структурную ці арганізацыйную перабудову эканомікі краіны ў цэлым? Аналіз сведчыць, што і тут надзеяў ніякіх. Напрыклад, за першае паўгоддзе прырост унутранага валавога прадукта ў краіне склаў чатыры працэнты. Рост не толькі невялікі, але, на жаль, чыста статыстычны. Бо запасы гатовай прадукцыі па многіх відах традыцыйнай для Беларусі прамысловай вытворчасці павялічыліся ў 3-5 разоў. Значыць, вытворчасць ажыццяўлялася не для спажывання, а на склад. Акрамя таго, на працягу першага паўгоддзя імкліва расла крэдыторская запазычанасць. Паводле дадзеных старшыні Нацыянальнага банка, да пачатку другога паўгоддзя яна павялічылася па народнай гаспадарцы болей чым удвая і дасягнула 860 мільярдаў рублёў. Аналагічнымі тэмпамі расла таксама і дэбіторская завінавачанасць. Узнікае фінансавая сітуацыя, калі прадпрыемствы пастаўленыя ў цяжкае становішча. За што тут хапацца: вяртаць пазыкі, скарачаць неплацяжы альбо накіроўваць абмежаваныя грашовыя рэсурсы на рост заробнай платы, дэклараваны Лукашэнкам?

Як будзе ўплываць крэдыторская запазычанасць на рост зарплаты ў наступны перыяд, калі ўжо сёння яна стрымлівае не толькі рост, але нават своечасовую выплату мізэрнай заробнай платы, напрыклад, у сельскай гаспадарцы? Вось канкрэтны факт: у Мядзельскім раёне Менскай вобласці крэдыторская завінавачанасць да ліпеня дасягнула 790 мільёнаў рублёў, што толькі на 15 мільёнаў рублёў меней як увесь валавы даход за мінулы год. Але ж гэта фінансавае банкруцтва!

Заява наконт хуткага падвышэння рэальнага заробку, прытым у адчувальным памеры, была зроблена, відаць, з мэтай аслабіць сацыяльнае напружанне ў грамадстве, так бы мовіць, выпусціць пару. Бо на шляху да такога падвышэння надзвычай шмат перашкодаў. Адной з іх з'яўляецца запазычанасць па заробку ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі, асабліва ў вёсцы. За 10 дзён перад 15 жніўня завінавачанасць перад калгаснікамі і рабочымі саўгасаў была скарочана на 7 мільярдаў рублёў за кошт паступлення сродкаў за здадзенае зерне ды іншую прадукцыю. Аднак да ліквідацыі запазычанасці яшчэ далёка. Застаецца яшчэ 14 мільярдаў. А.Лукашэнка на спецыяльнай нарадзе, праведзенай 15 жніўня, запатрабаваў ад урада, Нацыянальнага банка, мясцовых уладаў прыняць усе меры, каб да першага верасня ўся запазычанасць па заробнай плаце перад калгаснікамі і рабочымі саўгасаў за папярэдні перыяд, у тым ліку і ліпень, была ліквідаваная. Аднак адміністратыўны рэжым бездапаможны без адпаведнай базы. Таму што калгасы і саўгасы маюць празмерныя пазыкі за энергарэсурсы, паліва і нясуць вялікія вытворчыя выдаткі падчас сёлетняй гарачай пары. Цяжка ў гэтых умовах пераадолець завінавачанасць па зарплаце.

Дэкларацыя аб падвышэнні заробнай платы ў маючы адбыцца перыяд пакідае без адказу шматлікія пытанні. Да прыкладу, як будзе ўплываць палітыка цэнаўтварэння на маркуемае падвышэнне рэальнага заробку? Адно зразумела, што зніжэнне спажывецкіх коштаў не прадугледжана, пра што недвухсэнсоўна заявіў А.Лукашэнка падчас візіту ў Іванаўскі раён. Але ў якой ступені непазбежны рост цэнаў будзе карэктаваць падвышэнне рэальнай заробнай платы - застаецца пакуль без адказу. Між тым, у сярэдзіне жніўня жыллёвыя тарыфы і тарыфы транспартных паслуг нібыта сарваліся з ланцуга. З 15 жніўня на 50 працэнтаў(!) падвышаныя тарыфы на гарачую ваду і ацяпленне. На 30 працэнтаў з 12 жніўня падвысіўся кошт праезду па чыгунцы. Падвысілася плата за паслугі электрасувязі і г.д. Пра што гэта сведчыць? Толькі пра тое, што бюджэт ужо не ў стане датаваць ні камунальную гаспадарку, ні паслугі сувязі ў ранейшых памерах. Але адначасова гэта пацвярджае і дэфіцыт заробку, асабліва рэальнага. У Лукашэнкі і яго адміністрацыі ёсць толькі адно выйсце - запусціць праз друкарскі станок эмісію грошай.

Узважваючы аргументы «за» і «супраць» неабходнасці і магчымасці падвышэння рэальнай заробнай платы, варта адказаць і на пытанне, пастаўленае ў пачатку дадзенага артыкула. А менавіта - ці можна падвысіць рэальны заробак без эканамічных рэформаў у краіне, у тым ліку і рэформы самой заробнай платы? Адказ на першую і другую часткі пытання толькі адмоўны. На самой справе, ці можна казаць наконт падвышэння зарплаты ў краіне, калі многія катэгорыі работнікаў народнай гаспадаркі атрымліваюць заробак ў рэальным значэнні ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт або бюджэт пражыткавага мінімума? Дарэчы, да сённяшняга дня катэгорыя «мінімальная заробная плата» не, на жаль, чыста лічбавы характар. Рэформа зарплаты ўвесь час адкладаецца.

**Уладзімір Кулажанка, доктар эканамічных навук, прафесар**

# Нават каровы пратэстуюць

**Сельгаспрадпрыемствы Гарадзеншчыны працягваюць зніжаць аб'ёмы вытворчасці мяса-малочнай прадукцыі.**

За сем месяцаў надой на адну карову склаў 1.520 кілаграмаў, што на 190 кілаграмаў менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Валавая прывага буйной рагатай жывёлы знізілася на 17 працэнтаў, свіней - на 13 працэнтаў. Вынікі ліпеня сітуацыю істотна не змянілі. У большасці раёнаў вобласці не дасягнуты запланаваны на летні перыяд рост прадукцыйнасці жывёлы і аб'ёмаў вытворчасці. У цэлым па вобласці ў ліпені надой на карову знізіўся на 16 кілаграмаў і склаў 284 кілаграмы. Валавая вытворчасць малака скарацілася на 3,5 тысячы тон.

Прычынамі спаду сталі недахоп кармоў на пашах, затрымка з паступленнем канцэнтратаў са збожжа новага ўраджаю і недахопы ў арганізацыі работы на фермах. Зараз пастаўлена задача ва ўсіх раёнах вобласці да пачатку зімоўкі аднавіць дойны статак і агульнае пагалоўе жывёлы.

**Ася Куніцкая**

# Лідзкія абутнікі страйкуюць

**На Лідзкай абутковай фабрыцы прайшоў стыхійны страйк. Першая змена ня выйшла на працу і не дапусьціла да работы кіраўніцтва прадпрыемства.**

Рэзкае незадавальненьне працоўных выклікала скарачэньне штатаў, рашэньне аб чым прыняла адміністрацыя. На перамовах з работнікамі зьявіліся і прадстаўнікі раённых выканаўчых структураў. Хоць да мясцовых уладаў асаблівых прэтэнзіяў не прад'яўлялася, прадпрыемства знаходзіцца ў жахлівым стане. Тавары, якія выраблае фабрыка, маюць невысокую якасьць і не карыстаюцца асаблівым попытам, не знаходзяць збыту. Абутковая фабрыка зьяўляецца акцыянэрным таварыствам і, як высьвятляецца, акцыянаваньне праводзілася тут са значным парушэньнем заканадаўства. Фабрыка пасьля зьмены формы ўласнасьці не выплочвала сваім працаўнікам дывідэнтаў. Рабочыя не атрымлівалі афіцыйных папераў, у якіх зафіксаваныя маёмасныя правы.

Наогул, у дадзеным канфлікце праглядаюцца дзьве асноўныя прычыны: па-першае, адсутнасьць эфэктыўнай сыстэмы кіраваньня падобнымі прадпрыемствамі; па-другое, агульны эканамічны стан, які склаўся ў краіне.

**БАРЦ**

# Лепей хадзіць пешшу

**22 жніўня ў Беларусі зацверджаны новыя аптовыя і рознічныя цэны на нафтапрадукты, якія адгружаюцца канцэрнам «Белнафтахім» і рэалізуюцца прадпрыемствамі сістэмы канцэрна праз аўтазаправачныя станцыі.**

Згодна з загадам кіраўніцтва канцэрна «Белнафтахім» ад 21 жніўня № 351, цэны на нафтапрадукты павышаюцца ў сярэднім на 5 працэнтаў. Напрыклад, цана рэалізацыі аўтабензіна А-76 праз АЗС прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у сістэму канцэрна, устаноўлена за літр, уключаючы падаткі з продажу і ПДВ, 299 рублёў, А-92 - 393 рублі, АІ-95 - 463 рублі, дызельнага паліва - 282 рублі. Цана рэалізацыі праз АЗС на аўтамагістралі «Брэст - Масква» склала адпаведна: А-76 - 305 рублёў, АІ-92 - 401 рубель, АІ-95 - 472 рублі.

Чарговае павышэнне цэн на нафтапрадукты ў канцэрне «Белнафтахім» тлумачыць неабходнасцю насычэння рынку нафтапрадуктаў, збліжэннем курсаў беларускага рубля да даляра ЗША, а таксама ростам цаны на нафту. У сувязі з устанаўленнем новых цэн канцэрн «Белнафтахім» запатрабаваў ад прадпрыемстваў нафтапрадуктазабеспячэння з 22 жніўня 2000 года пры адгрузцы нафтапрадуктаў калгасам, саўгасам і райаграснабам праводзіць фармаванне аптовых цэн з улікам надбаўкі не больш чым 5 працэнтаў; пры адгрузцы іншым спажыўцам - з улікам надбаўкі не больш чым 8 працэнтаў; у выпадку транзітнай адгрузкі нафтапрадуктаў памер аптовай надбаўкі не павінен перавышаць 5 працэнтаў ад цаны прадпрыемства-вытворцы.

Апошні раз цэны на нафтапрадукты ў Беларусі павышаліся 2 жніўня.

**Яўген Грубіч**

# Нацбанк вельмі турбуе наша валюта

**Праўленне Нацыянальнага банка Беларусі зацвердзіла Правілы ўвозу, вывазу і перасылкі наяўнай валюты, плацёжных дакументаў у замежнай валюце, памятных манет з каштоўных металаў фізічнымі асобамі цераз мытную мяжу рэспублікі.**

Як паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі НБ, правіламі дазволены ўвоз грамадзянамі ў нашу краіну і вываз за яе межы наяўных беларускіх рублёў у суме, якая не перавышае ўстаноўленых ў Беларусі 100 мінімальных заробных плат на аднаго чалавека. Без прад'яўлення дазвольных дакументаў можна будзе вывозіць адной фізічнай асобе наяўную замежную валюту ў суме, якая не перавышае ў 1.500 даляраў ЗША (зараз гэтая сума не павінна перавышаць 500 даляраў ЗША). Дадзеная сума разлічваецца па афіцыйнаму курсу беларускага рубля да адпаведнай валюты на дзень мытнага афармлення. Увозіць жа ў краіну замежную валюту дазваляецца без абмежавання сумы, як і любую колькасць памятных манет з каштоўных металаў, але з выкананнем патрабаванняў мытнага заканадаўства. Аднак вывозіць з Беларусі кожнаму чалавеку можна не больш чым пяць штук манет з золата, плаціны, паладыя і дзесяць - са срэбра.

Згодна з новымі Правіламі, забаронена перасылка як у нашу краіну, гэтак і за яе межы наяўных беларускіх рублёў і памятных манет з каштоўных металаў. Перасылаць жа з Беларусі, як і ў Беларусь, наяўную замежную валюту лістамі з аб'яўленай каштоўнасцю дазволена ў суме, якая не перавышае ў эквіваленце 200 даляраў ЗША. Яна разлічваецца па афіцыйнаму курсу беларускага рубля да адпаведнай замежнай валюты на дзень прыёму ліста з аб'яўленай каштоўнасцю прадпрыемствам сувязі. Увоз грамадзянамі з дзяржаваў-удзельніц Мытнага саюза ў Беларусь, як і вываз туды з нашай краіны наяўнай валюты, плацёжных дакументаў у замежнай валюце, памятных манет з каштоўных металаў дазволены без абмежавання сумы і без дэкларавання ў пісьмовай форме, за выключэннем выпадкаў дэкларавання па ўласным жаданні фізічнай асобы. Правілы ўваходзяць у сілу з 1 верасня 2000 года.

**Алег Сакалоў**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

Запчасткі да аўтамабіля «Toyota Corola», 1985 г.в.; 1,3 Б (3-дзверны, купэ). Тэл. (8-213) 2-24-79 (пасля 18.00, запрасіць Алега).

«Масквіч-2140», на хаду, 1979 г.в., на запчасткі. Тэл. 44-45-41.

Volkswagen- «транспарцёр», 1983 г.в., дызель, танна; «КамАЗ-5410», 1990 г.в. Тэл. у Мастах 3-31-05.

BMW, 1982 г.в. (патрэбны рамонт) ці на запчасткі. Тэл. 2-02-98.

«Масквіч-2140» на запчасткі, танна. Тэл. 99-56-12 (запрасіць Аркадзя).

Прыватызаваны ўчастак у Зарыцы пад будаўніцтва, 18 сотак. Тэл. 33-79-95.

Дзвюхпакаёвую кватэру (2-і паверх) у раёне вуліцы Пушкіна: хатнія рэчы, сценка, кухня, стол, крэсла, пыласос, канапа, трумо. Тэл. 33-30-98.

Картрыджы для 16-бітнай прыстаўкі «Sega» (па кошту 2,5 тыс. рублёў): Gemfire(«Каштоўны агонь», прыгодніцкая ваенна-стратэгічная гульня); Mutant League Football (Мутанцкая футбольная ліга», амерыканскі футбол жахлівых мутантаў); Rock-N-Roll Rasing (аўтамабільныя гонкі іншапланецянаў); Ghost Busters («Паляўнічыя за прывідамі», прыгодніцкая гульня); 4-гульнёўку - Bare Knucle («Вуліцы гневу», баявая сюжэтная гульня, вулічныя бойкі), Caesar's Palace (азартныя гульні ў казіно: рулетка, косці, лато, 21 ачко, «аднарукі бандыт», відэапокер, скачкі, латарэя), Sonic-1 (прыгодніцкая гульня), Alien-3 (прыгодніцкі касмічны баявік па матывах к/ф «Чужыя»). Да ўсіх гульняў прыкладаюцца іх апісанні, коды, паролі, сакрэты, парады, гульнёвыя прыёмы. Тэл. 75-44-70.

Узмацняльнік «Вега-50-122С», калонкі, імпартную аўтамагнітолу, радыёстанцыю «Onva». Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

Дапаможнікі па матэматыцы, хіміі для навучэнцаў і абітурыентаў. Тэл. 39-02-63 (пасля 19.00, запрасіць Алесю).

TV «Электрон», вельмі танна; капот да аўтамабіля «Ford Sierra», танна. Тэл. 2-65-60.

Халадзільнік «Снайге-15» у добрым стане; пральную машыну «Расінка». Усё б/у. Тэл. 72-87-51.

Узмацняльнік «Брыг-001» (кошт - 35 у.а.), фотаапарат «Фэд-3» (кошт - 10 у.а.), святламузыку «Спектр-301» (кошт - 15 у.а). Усё б/у, у добрым стане. Звяртацца: вул.Томіна, д.20, кв.405.

Ложак, два крэслы, кухню, пральную і швачную машыны. Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

Швелер N16. Тэл. 99-56-12 (запрасіць Аркадзя).

Халадзільнік «Снайге-15Е» (б/у), а таксама шыны і лабавое шкло ад «Масквіча-2140». Тэл. 44-39-70.

Рогі лася (11 разгаліnaванняў), чахол для гітары, два паўтарачныя (1,5) ложкі, б/у; магнітафоны «Сатурн-201» і «Вега-328-стэрэа», б/у. Тэл. 33-79-95.

Халадзільнік (кошт - 25 у.а.), плэер (кошт - 5 у.а.), новыя скураныя туфлі (памер 43, кошт - 10 у.а.), пярэдні бампер BMW-3 (кошт - 5 у.а.), пластанатомію для мастакоў - 45 у.а., лыжныя чаравікі «Adidas» (кошт - 30 у.а.). Тэл. 5-66-58.

Складны ровар, б/у; трохлямпавы тэлевізар на запчасткі; запчасткі да а/м «Масквіч-2140»; лямпавы ўзмацняльнік; бабінны ўзмацняльнік. Тэл. 72-89-29.

Фаеркі, пераключальнікі да электраплітаў. Тэл. 72-32-92.

Вялікую тумбу для абутку. Тэл. 5-98-49.

Газавую пліту, б/у. Тэл. 47-18-21.

Лінолеум (шырыня - 1,5 м), шліфмашынку, дыван (2х4, Брэст), аверлок. Тэл. 44-38-99.

## КУПЛЮ

Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Газавую пліту (4-фаеркавую, 50х50) альбо мяняю. Тэл. 5-98-49.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Фоташтатыў. Тэл. 33-59-87.

Старыя манеты, узнагароды, абразы, любы антыкварыят, купюры. Тэл. у Менску 263-40-74.

Эспандэр для развіцця мышцаў плеч і грудной клеткі. Тэл. 76-58-05 (з 10.00 да 20.00, запрасіць Сяргея).

## ПАСЛУГІ

Рэпетытарства па польскай мове. Тэл. 2-55-40 (пасля 19.00).

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

лацінскай, беларускай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Расейская, ангельская, балгарская, беларуская, польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77.

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканіраванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы.

### Польская грамадская школа

**пры Саюзе Палякаў у г.Гродна**
**аб'яўляе набор вучняў у 7-11 класы**

Заняткі праходзяць у групах па 15-20 чалавек у класах СШ N36 у г.Гродна ў вячэрні час па будзённых днях і нядзелях.

Праграма навучання прадугледжвае заняткі па наступных прадметах:

- граматыка польскай мовы;
- польская літаратура;
- гісторыя;
- матэматыка (факультатыў);
- біялогія (факультатыў);
- хімія (факультатыў);
- элементы культуры і польскага фальклору (факультатыў).

У школе працуюць настаўнікі, якія скончылі польскія ВНУ і настаўнікі з Польшчы, што гарантуе высокі ўзровень навучання. Кожны год для вучняў школы арганізуюцца экскурсіі ды адпачынак у летніках, размешчаных у маляўнічых куточках Рэспублікі Польшча.

**Заявы прымаюцца ў аддзеле адукацыі Саюза Палякаў па адрасу: вул.Дзяржынскага, 32, ці па тэлефоне 72-00-62, а пасля 15 верасня - у СШ N36 у г.Гродна - вул.Курчатава, 43, бібліятэка Польскай грамадскай школы (3-ці паверх), з 9.00 да 15.00 (тэл.78-42-11).**

Рэпетытарства па ангельскай, нямецкай мове. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Сканіраванне фотаздымкаў (камп'ютарная апрацоўка) тэкстаў, распазнаванне, набор і раздрукоўка (на лазерным, струйным ды іншых прынтарах) на IBM PC (руск., анг.). Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па ангельскай, Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

Камп'ютарны набор, сканіраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

### Палац культуры хімікаў набірае дзяцей:

- у студыі народнага, бальнага і сучаснага танцаў;
- у групу ангельскай мовы для школьнікаў;
- на заняткі з лагапедам;
- для дашкольнай падрыхтоўкі («Вясёлая школа»);
- у студыю выяўленчага мастацтва, вялікага тэнісу, ігры на фартэпіяна, «УШУ»;

**Дарослых: на 3-х месячныя**

- курсы цырульнікаў;
- курсы масажу;
- курсы ангельскай мовы;
- курсы мадэлявання і пашыву адзення;
- курсы сакратарак з веданнем камп'ютара;
- выяўленчага мастацтва;
- у секцыю шэйпінгу;
- у студыю бальнага танца.

*Запіс праводзіцца ў Палацы культуры хімікаў штодзённа.*

Тэлефоны для даведак: 74-19-13; 74-19-29; 2-55-21.

## РОЗНАЕ

Згубленае пасведчанне інваліда II групы на імя Марыі Іванаўны Ватыль лічыць несапраўдным.

Шкаляры, гімназісты, ліцэісты Гарадзеншчыны! Калі хочаце мець у вашай навучальнай установе сваю газэтку, пішыце на адрас: 230009, Гародня, а/с 30, ЛІЦЭЙ плюс ці yunela@mail.ru

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі. Тэл. 44-39-15.

Здаю пакой з мэбляй (пр-т 40 гадоў Перамогі). Тэл. 6-66-96.

Да ведама бацькоў вучняў беларускамоўных класаў! Па ўсіх пытаннях, якія не вырашаюцца (падручнікі, дапаможнікі на беларускай мове ды іншае) просім звяртацца ў Таварыства беларускай мовы на адрас: 220005, г.Менск, вул.Румянцава, 13.

Шукаю працу на прадпрыемстве па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Аддам прыгожых шчанюкоў у добрыя рукі. Тэл. 75-19-89.

Шукаю аднадумцаў для ўтварэння Клуба аматараў ангельскай мовы. Тэл. 44-45-41.

Кнігу С.Астраўца «Цэнзарскія нажніцы» можна замовіць на выставе беларускай аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі. Акрамя гэтага, на выставе з'явіліся новыя нумары часопіса «Arche»: «Arche-Скарына». Чакаем вас кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 па адрасе: г.Гродна, вуліца К.Маркса,11, 2-і паверх, тэлефанаваць 2-34-68, 72-11-83 (запрасіць Андрэя).

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

## ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына, 46/164/70, шукае адзінокага мужчыну да 55 гадоў, здольнага быць гаспадаром у сваёй хаце. Лісты дасылаць на адрас: 230019, г.Гродно-19, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта КН 0151275.

Таццяна, 19/173, студэнтка ГрДзУ, з задавальненнем пазнаёміцца з сур'ёзным і прыстойным маладым чалавекам, не пазбаўленым пачуцця гумару, для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230003, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта КН 0229658.

Пазнаёмлюся з добрай і прыстойнай асобай для стварэння з сям'і. Пра сябе: Рыгор, 27/175/68, жанаты не быў, маю вышэйшую адукацыю, не п'ю і не куру, спакойны, жыллём забяспечаны. Пісаць: 210015, г.Віцебск-15, а/с 34.

Надзвычай энергічны, далікатны, імпазантны мужчына бальзакаўскага ўзросту жадае пазнаёміцца з прыемнай ва ўсіх адносінах жанчынай да 40 гадоў. Хатні адрас: 230026, г.Гродна-26, вуліца Томіна, 16-706б (Віктар Дзмітрыевіч); пажадана захапіць з сабою пашпарт.

Удава, 46/170/85, пазнаёміцца з добрым, прыстойным мужчынам да 50 гадоў, які таксама смуткуе ў адзіноце. Калі патрэбна - згодна на пераезд. Пісаць на адрас: 231300, г.Ліда, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта N7559996.

Мужчына, 37/175, пазнаёміцца з жанчынай для прыемных сустрэчаў. Пісаць: 230025, г.Гродна-25, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку пасведчання ХА 028327.

Пазнаёмлюся з прыстойнай жанчынай, добрай гаспадыняй. Жыллём забяспечаны. Пра сябе: 43/175/80, разведзены. Пісаць: 230029, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН 0276380.

## ВІНШАВАННІ

Віншую ***Вольгу Камінскую*** з самым цудоўным святам - Днём нараджэння! Жадаю табе ў гэты ўрачысты дзень - дзень твайго паўналецця - здароўя, шчасця, кахання! Няхай здзейсняцца ўсе твае самыя запаветныя мары і, канешне, хай твае вусны ніколі не пакідае мілая ўсмешка! Поспехаў табе, дарагая Вольгачка!

**Аксана**

Віншую маю маленькую гарэзлівую ***Александрыну*** з 11-ым Днём народзінаў.

***Мілая сястрычка!***
***Няхай табе сонца смяецца,***
***Няхай табе ўсё удаецца!***
***Табе я зычу гэтым днём***
***Дабра, пяшчоты і кахання!***
***І хай у вочы радасць гляне,***
***Якую мы вясной завём.***

**Алеся**

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Авальная зала. Выстава - «Медны посуд XVIII - пачатак XX стагоддзяў». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Працягвае дзеянне выстава, арганізаваная Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі рэлігіі, - «Вобраз маці Божай у іканапісу».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Сумесная выстава мастакоў Гарадзеншчыны. Вялікі выбар мастацкіх матэрыялаў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Дзейнічае выстава вышыванак Аляўціны Кавалеўскай пад назвай «Паэзія ў нітках».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выходныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Лядовы палац.** 26 жніўня - дабрачынная акцыя «Дзеля будучыні», Маскоўскі лядовы цырк. У праграме: клоуны, дрэсіраваныя жывёлы, жанглёры, акрабаты ды іншае. Кошт квіткоў ад 2000 да 5000 рублёў.

**Вуліца Паповіча. Чэшскі лунапарк «Прага»** прапануе: сучасныя атракцыёны, добрае абслугоўванне, папулярная музыка. Парк працуе штодня: з панядзелка па пятніцу - з 14.00 да 23.00; у суботу і нядзелю - з 11.00 да 23.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Начны клуб «Клетка»** - з 21.00 да 06.00 (чацвер - нядзеля).

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**Газета ПАГОНЯ**
**Запрашае на працу**
***пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!***
***Тэл. 72-37-14, 72-29-96***

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

| 31 | Імя і прозвішча |
|---|---|
| | Адрас (тэлефон) |
| | Рубрыка |
| | Тэкст |

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



ПЯРЭСТЫ КУТ

# За дзяржаву крыўдна!

**Днямі адбыліся афіцыйныя праводзіны каманды Беларусі на Алімпійскія гульні ў Сіднэі. У Аўстралію адправіўся 141 спарцмен, у той час, калі права на ўдзел у гульнях заваявалі 198. Па-мойму, парушана права 57 чалавек на ўдзел у Алімпійскіх гульнях. Права, заваяванае гэтымі людзьмі ў перадалімпійскім чатырохгоддзі. Ліцэнзіі на ўдзел у Алімпійскіх гульнях выдаваліся за прадэманстраваныя вынікі, а не за баўленне часу на канапе. Спартыўныя функцыянеры пазбавілі 57 чалавек права стаць алімпійцамі. Чаму? Па якому праву?**

Калі ў «Прэсболе» (N93 ад 11 жніўня) я прачытаў інтэрв'ю з Ул.Парфеновічам, то не сумняваўся, што гэта (57 чалавек за бортам Алімпійскіх гульняў) недарэчнасць і ў Сіднэй паедуць усе тыя, хто заслужана павінен туды накіравацца. Майму абурэнню не было мяжы, калі высветлілася, што склад дэлегацыі не змяніўся. Але самае страшнае, што ніхто гэтаму нават не паспрабаваў запярэчыць. Дзе Вы, алімпійцы, спарцмены ўвогуле, трэнеры, заўзятары!? Хаця што можна чакаць ад «спартовай грамадскасці» пасля публічнага раскрыжавання нашых весляроў і 10 даляраў, сабраных А.Каршакевічу на аперацыю. Няўжо не засталося ў свеце людзей, якія бачылі ягоныя «парашуты»?

**Пятро Крышчык,**
**цэнтравы баскетбольнага клуба «Гродна-93»**

Культурна-асьветніцкі цэнтр імя Ул.Караткевіча 9-га верасьня 2000 году праводзіць традыцыйны фэст, прысьвечаны ўгодкам славутай Аршанскай бітвы. Гасьцей чакаюць у Воршы а 15-й гадзіне на аўтобусным прыпынку «Чыгуначны вакзал» (ад'езд на Крапівінскае поле арганізаваны).

У праграме:
- Імша па палеглых героях Аршанскае бітвы;
- рыцарскі турнір;
- пэрфоманс Алеся Пушкіна;
- сьпевы беларускіх бардаў.

Ад'езд у Воршу 10-га верасьня ў 10.30.

## ЗВАРОТ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ДА БЕЛАРУСКІХ СПАРТОЎЦАЎ

**Паважаныя беларускія алімпійцы!**

Вам выпала абараняць гонар нашай Бацькаўшчыны ў далёкай Аўстраліі. Спартыўныя традыцыі беларусаў сягаюць у часы Полацкага княства, калі быў закладзены падмурак сучасным відам спорту, а выява старажытнага герба «Пагоня» сімвалізавала не толькі вайсковую спрактыкаванасць, але і спартовыя здольнасці нашых продкаў.

Вядома, на вялікай адлегласці ад роднага дома заўсёды хочацца мець з сабою кавалачак сваёй Радзімы, адчуваць яе падтрымку, якая надае змогі ў спаборніцтвах. Няхай жа такой часцінкай стане наша з вамі родная беларуская мова. Спадзяемся, што кожнае сказанае вамі і вашымі трэнерамі беларускае слоўка, праспяваная родная песня нададуць упэўненасці і веры ў змаганні за гонар нашай краіны.

Таварыства беларускай мовы зычыць вам перамогі і чакае ад вас цудоўных вынікаў на алімпійскіх гульнях у Сіднэі.

Жыве беларуская мова!
Жыве беларускі спорт!
Жыве Беларусь!

**21 жніўня 2000 года**

**Знайдзіце рускім паняццям беларускія адпаведнікі**

*По гарызанталі:* 3.Ярмарка. 4.Очертания. 11.Свидетель. 12.Распря. 13.Одеяло. 14.Дымка. 15.Поступок. 18.Часть. 19.Подруга невесты (разг.). 20.Совещание. 23.Основание. 27.Восклицание. 28.Художник. 29.Зрачок. 32.Нищета. 33.Огурец. 34.Выпечка (кулинар.). 35.Обувь.

*По вертыкалі:* 1.Отара. 2.Оскорбление. 5.Подол. 6.Улитка. 7.Ссора. 8.Совет. 9.Призрак. 10.Гончая собака. 16.Стадо. 17.Ученик. 21.Богатырь. 22.Берёзовик (гриб). 23.Охапка. 24.Верхом (нареч.). 25.Раздумье. 26.Сундук. 30.Журавли. 31.Картошка.



**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N29 (476):**
1.Эстамп. 2.Балід. 3.Плацкарта. 4.Сейнер. 5.Камяніца. 6.Абліваха. 7.Заканурак. 8.Вязьмо.

# «Ліцьвіны» вандравалі па Ваўкавышчыне

**Напачатку жніўня сябры Ваўкавыскай моладзевай ініцыятывы «Ліцьвіны» здзейснілі краязнаўчую вандроўку па Ваўкавыскаму раёну з мэтай вывучэння гісторыі, культуры, тапанімікі ды мікратапанімікі сваёй маленькай радзімы. Вандроўка гэтая адбывалася ў два туры: з 2 да 6 жніўня - першы і з 9 да 13 жніўня - другі тур.**



Скарбы ад бабуляў і дзядуляў

Падчас першага тура месцам асаблівага даследавання сталася вёска Янавічы. Маладыя краязнаўцы цікавіліся жыццём, буднямі і святамі старэйшых жыхароў вёскі ў 20-40-ыя гады нашага стагоддзя. Бабулі і дзядулі з радасцю ўспаміналі маладосць, паказвалі прадметы побыту, прылады працы, упрыгожанні, выраблены сваімі рукамі. Вельмі цікавымі былі аповеды пра другую сусветную вайну. У іх не было пафаснасці і «прыгожых» словаў, чуліся горыч і боль, якія прынесла вайна. Аднолькава баяліся вяскоўцы і фашыстаў, і, на жаль, партызанаў. Пасля была прымусовая калектывізацыя, высылкі... Але нягледзячы на ўсе цяжкасці, людзі дапамагалі адзін аднаму, штовечар збіраліся, спявалі песні, танцавалі. Акрамя Янавічаў, «Ліцьвіны» наведалі вёскі Бягені, Снапкі, Шылавічы.

У другім туры шлях краязнаўцаў праходзіў праз Старыя Хацькоўцы, Гнезна, Краскі, Амшары (Омшары, як называюць вяскоўцы), Падароск. Менавіта ў гэтых вёсках захаваліся найбольш каштоўныя архітэктурныя помнікі Ваўкавышчыны. Так, вядома, што ў Гнезне знаходзіцца адзін з самых старых касцёлаў на Беларусі, пабудаваны ў 1524 годзе ўладальнікамі вёскі Шамятовічамі. У Хацькоўцах дапытлівыя маладыя людзі настолькі спадабаліся мясцовым жыхарам, што тыя не пабаяліся запрасіць іх у хатку, якой каля 100 гадоў. У Падароску, як вядома, знаходзіцца цудоўны палацавы комплекс, перабудаваны ў пачатку стагоддзя ўладальнікам маёнтка Р.Бохвіцам, а таксама парк, закладзены ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Мясцовыя жыхары яшчэ памятаюць апошніх гаспадароў маёнтка.

Але найбольш здзівіў і зачараваў палац у вёсцы Краскі, які з сярэдзіны XIX стагоддзя належаў Сегеням. Маёнтак гэты кранае сваёй веліччу і прыгажосцю. Балюча, што цяпер будынак знаходзіцца ў даволі крытычным стане і патрабуе неадкладнай рэстаўрацыі. Аднак для гэтага патрэбныя грошы і, канешне, жаданне. Чаго не стае больш - невядома...

Яшчэ адзін этап краязнаўчай працы завершаны. Але нязведанага, недаследаванага на Ваўкавышчыне так многа... Па выніках экспедыцыі «Ліцьвіны» плануюць выдаць бюлетэнь і працягваць працу ў гэтым кірунку. Варта працаваць і таму, што ў размовах са старымі людзьмі, у наведванні палацаў і храмаў ачышчаешся душою, мацней чуеш галасы продкаў, разумееш, што мы - дзеці гэтай зямлі, і ад нас залежыць яе будучыня.

**Алена Канапелька**

ПАМЯТКА ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ І ЖАНЧЫН

# Сакрэты сексуальнай магіі

**Некаторыя дзяўчаткі і жанчыны лічаць, што яны знешне непрыгожыя, што ўсё ў іх не так, і таму іх абмінае каханне. Іншыя ўпэўненыя ў сваёй абаяльнасці ды чароўнасці і чакаюць, калі ж ля іх ног будуць усе мужчыны Сусвету. Аднак жыццё ўносіць свае карэктывы. Часцяком усё атрымліваецца наадварот. У чым сакрэт?**

**Першы ключ прывабнасці**

Гэты магічны ключ - у натуральнасці паводзінаў. Не трэба камплексаваць. Паводзьце сябе ўпэўнена - гэта вабіць мужчынаў. Закамплексаванасць вымушае саромецца ці капіраваць манеры іншых, што атрымліваецца неарганічна і не зусім прывабна. Трэба палюбіць сябе такой, якая Вы ёсць. І гэта датычыць як знешнасці, так і ўнутраных якасцяў.

**Другі ключ - усмешка**

Даследаванні псіхолагаў сведчаць, што ўсмешка падвышае ступень прывабнасці ў 5-7 разоў. Тое, з чаго чалавек смяецца, у якіх сітуацыях усміхаецца, можа многае пра яго распавесці. Адна справа смех з недахопаў людзей і зусім іншая - смяяцца з чагосьці дасціпнага. Не варта смяяцца і ўсміхацца вульгарна. Усмешка павінна зачароўваць.

**Трэці ключ - Ваша індывідуальнасць**

У Вас ёсць нейкая загадка, «разынка», як кажуць? За ёю часта стаіць веданне сябе і таго, што хацелася б узяць ад жыцця. Калі Вы абралі свой шлях у жыцці, не сумуеце і не кідаецеся ў крайнасці, то пастунова ўсвядоміце, што з'яўляецеся ўнікальнай асобай, індывідуальнасцю з той самай «разынкай», якой няма ні ў кога іншага. Заўсёды выклікае сімпатыю добры чалавек, незалежна ад знешніх дадзеных. Розум, талент, пачуццё гумару, мэтанакіраванасць, добразычлівасць і жыццярадаснасць важна разгледзець у сабе і развіць. Абаяльнасць напрацоўваецца штодзень, яна зусім не абгортка ад няссмачнай цукеркі, ролю якой часта адыгрывае знешняя прыгажосць.

**Чацвёрты ключ - разуменне**

Вы павінны быць здольнай адчуваць і разумець тых, хто побач з Вамі. Чалавек, заняты толькі сабою і сваімі праблемамі, хутка абрыдне. Трэба навучыцца весці дыялог, спачуваць, не быць эгаістычнай. Але гэта не азначае, што трэба падпарадкоўвацца ды ісці на повадзе.

**Пяты ключ - варта ўсвядоміць, што Вам трэба**

А дакладней, зразумець, хто Вам патрэбны, чаго Вы чакаеце ад зносінаў з тымі ці іншымі людзьмі, на што прэтэндуеце, якія Вашыя матывы. У залежнасці ад гэтага і фармуйце свой знешні воблік, так званы іміж.

**Шосты ключ - знешні выгляд**

Вельмі важна тое, як Вы апранаецеся і як выглядаеце. Жадаеце таннай інтрыжкі - апранайцеся ярка, задзірліва і абуральна. Лавеласы Вам забяспечаны. Калі Вы не жадаеце, каб Вас успрымалі толькі як сексуальны аб'ект, апранайцеся больш сціпла. Меней «тынкоўкі», вульгарнасці - і Вас заўважыць сур'ёзны мужчына. Варта таксама памятаць, што быць прыгожай, жаданай і прывабнай для ўсіх немажліва і не трэба. Прымайце сябе такой, якая Вы ёсць. Вашую прыгажосць і ўсе астатнія якасці здолее ацаніць толькі той, хто Вам сапраўды патрэбны. Менавіта той мужчына, для сустрэчаў з якім Вам і спатрэбяцца індывідуальнасць, абаяльнасць, элегантнасць у манеры апранацца, размаўляць, прывабнасць і ўся Ваша сексуальная магія.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Поспех на асабістым фронце і на працы падвысіць настрой і залагодзіць сямейныя канфлікты. Не забудзьцеся своечасова плаціць па рахунках.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Ці не здаецца Вам, што пара неяк вызначыцца з каханкамі? Калі так, то тыдзень найбольш для гэтага прыдатны. Дзейнічайце разважліва і рашуча.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Новыя знаёмствы не прынясуць Вам на гэтым тыдні нічога незвычайнага, затое падтрымку старых сяброў Вы ацэніце напоўніцу.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Не перабольшвайце свае магчымасці ў прафесійнай дзейнасці, не варта рызыкаваць аўтарытэтам сярод калег.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Атмасфера гэтага тыдня спрыяе зруху справаў, звязаных з грашыма. Аддавайце перавагу працы, але не забывайцеся на забавы.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Прыслухоўвайцеся да сваякоў - часам яны даюць слушныя парады. Памятайце: ператамленне на працы можа скончыцца для Вас мігрэнню.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Стрымлівайце свае негатыўныя намеры і памкненні ў дачыненні да сяброў - яны могуць пакрыўдзіцца ўсур'ёз і надоўга.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Паспрабуйце не трапляць пад гарачую руку начальства, калі не маеце жадання быць без віны вінаватым(-ай).

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Нарэшце скончацца Вашыя шэрыя будні. Зоркі абяцаюць Вам мноства зменаў і нечаканасцяў, у большасці сваёй прыемных.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Вы рызыкуеце страціць нешта важнае ў адносінах з блізкімі, калі і надалей з галавою будзеце паглыблены(-ая) ў работу.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Злёгку напружанае фінансавае становішча хутка зменіцца да лепшага. Больш пільнасці і асцярожнасці не пашкодзіць.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Пазбягайце крайнасцяў у адносінах з каханым чалавекам. Павелічэнне творчага патэнцыялу дазволіць Вам дамагчыся вялікіх поспехаў.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня».
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2 620 Наклад 7 110
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 23.08.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк,
камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013